БІБЛІОТЭКА ШКОЛЬНІКА.

*В. Біянкі.*

# *Мышанё Пік*



ВЫДАВЕЦТВА АБ'ЯДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫН
ІМЯ АЛЁІЗЫ ПАШКЕВІЧАНКІ (ЦЁТКІ)
ВІЛЬНЯ — 1931 г.

БІБЛІОТЭКА ШКОЛЬНІКА.

В. Біянкі.

# МЫШАНЁ ПІК.





ВЫДАВЕЦТВА АБ'ЯДНАНЬНЯ БЕЛА[illegible]
ІМЯ АЛЁІЗЫ ПАШКЕВІЧАНКІ ЦЁТКІ.
ВІЛЬНЯ — 1931

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## I. Як мышанё трапіла ў мораплаўцы.

Дзеці пушчалі па рэчцы карабельчыкі. Брат выразаў іх ножыкам з тоўстых кавалкаў хваёвае кары. Сястрычка прымайстроўвала з істужак парусы.

На самы большы карабельчык патрэбна была доўгая мачта.

— Трэба з роўнага дубчыка,—сказаў брат, узяў ножык і пашоў у кусты.

Раптам ён адтуль закрычаў:

— Мышы! Мышы!

Сястрычка кінулася да яго.

— Сekануў сучок,—расказваў брат,—а яны як шугнуць! Цэлая куча! Адзін вось сюды, пад корань,—і выцягнуў малюсенечкае мышанятка.

— А якое-ж яно маленечкае!—зьдзівілася сястрычка.—І жоўтае! Хіба такія бываюць?

— Гэта ня хатняе, — растлумачыў брат, — палявое. У кожнай пароды сваё імя, толькі ня ведаю, як завуць гэтае.

Пры гэтым мышанятка разявіла роцік і піснула.

— Пік! Яно кажа, яго завуць Пік!— пажартавала сястрычка. — Зірні, як яно дрыжыць!

— Ай! ды ў яго-ж вушка ў крыві. Гэта-ж ты яго ножыкам параніў, як даставаў. Яму баліць...

— Усё роўна, заб'ю яго, — злосна сказаў брат.—Я іх забіваю: навошта яны ў нас хлеб крадуць?

— Ня руш яго, пусьці, — упрашвала сястрычка,—яно-ж маленькае.

Але хлопчык нічога не хацеў слухаць.

— Кіну ў рэчку, — сказаў ён і пашоў да берагу. Дзяўчынка раптам здагадалася, як выратаваць мышанё.

— Стой!—гукнула яна брату.—Ведаеш што? Пасадзім яго ў наш самы большы карабельчык, і няхай яно паплавае!

На гэта брат згадзіўся: усё роўна мышанё ўтопіцца ў рэчцы. А з жывым пасажырам пусьціць карабельчык цікава.

Прыладзілі парус, пасадзілі мышанё ў выдзеўблены з кары карабельчык—і пусьцілі за вадою.

Падхапіў вецер карабельчык і пагнаў яго на сярэдзіну рэчкі. Моцна ўчапілася мышанятка за сухую кару і ані зварухнецца. Дзецы махалі яму з берагу рукамі.

Неўзабаве іх паклікалі да дому.

Яны яшчэ бачылі, як лёгкі карабельчык на ўсіх парусах зьнік за заваротам ракі.



— Бедны маленькі Пік!—шкадавала дзяўчынка, калі яны варочаліся да дому.—Карабельчык, напэўна, вецер аберне, і ён утопіцца.

Хлопчык маўчаў. Ён думаў, як-бы яму пазводзіць усіх мышэй у іхняй каморы.

## II. Як загінуў карабель.

Тымчасам мышанё на лёгкім хваёвым карабельчыку несла ды несла. Вецер усё далей адганяў судзінку ад берагу. Кругом высокія

хвалі. Рака была шырокая — нібы вялікае мора для маленькага Піка.

Піку было ўсяго два тыдні. Ня ўмеў ён яшчэ ні спажывы сабе шукаць, ні ад ворагаў хавацца. Таго дня мышка-маці ўпяршыню вывела сваіх мышанятак з гнязьдзечка пагуляць. Яна якраз карміла іх сваім малаком, калі хлопчык спалохаў усю мышыную сямейку.

Пік яшчэ быў сысунок. Злосна пажартавалі з ім дзеці. Ці ня лепей было-б, каб яны адразу забілі яго, чым пускаць аднаго маленькага і бяз ніякае абароны, у такую страшную і небясьпечную дарогу.

Увесь сьвет быў супраць яго. Вецер дзьмуў, нібы знарок хацеў перакуліць судзінку, хвалі гойдалі карабельчык, быццам хацелі затапіць яго ў цёмным сваім бяздоньні. Зьвяры, птушкі, вужакі, рыбы—усе былі супраць яго. Кожны ласы быў пажывіцца дурненькім безабаронным мышанёткам.

Перш за ўсіх заўважылі Піка вялікія белыя чайкі. Яны падляцелі і пачалі кружыцца над карабельчыкам. Яны кігікалі ад немагчымасьці адразу зьнішчыць мышанё: баяліся разьбіць сабе дзюбу аб цьвёрдую кару. Некаторыя спусьціліся на ваду і наўплаў даганялі карабельчык.

А з дна ракі выплыў зубаты шчупак і таксама паплыў за карабельчыкам. Ён чакаў,

калі чайкі скінуць мышанё ў ваду. Тады яно ня выкруціцца з яго страшэнных зубоў. Пік чуў хцівыя галасы чаек. Ён заплюшчыў вочкі і чакаў сьмерці.



У гэты час ззаду падляцела вялікая драпежная птушка—рыбалоў-каршун. Чайкі шыбанулі хто куды. Рыбалоў згледзеў мышанё на карабельчыку, а пад ім шчупака ў вадзе. Ён склаў крыльлі і старчма кінуўся ўніз.

Ён упаў у рэчку побач з карабельчыкам. Канцом крыла ён зачапіў парус, і судзінка перэвярнулася.

Калі рыбалоў цяжка ўздымаўся з вады з шчупаком у кіпцюрох, дык на абернутым карабельчыку нічога ня было. Чайкі здалёк убачылі гэта і зусім адгэтуль паляцелі: яны думалі, што мышанё утапілася.

Пік плаваць ня вучыўся. Але калі апынуўся ў вадзе, дык выявілася, што досыць толькі хутка перабіраць лапкамі, каб не ўтапіцца. Ён вынырнуў з вады і хапіўся зубкамі за карабельчык.

Вада панесла яго разам з перакуленай судзінкай.

Неўзабаве судзінку хвалі прынесьлі да невядомага берагу.

Пік выскачыў на бераг ды пабег у кусты. Цяпер ужо карабель загінуў сапраўды, і маленькі падарожнік меў права думаць, што яму пашанцавала, бо выратаваўся.

## III. Страшная ноч.

Пік вельмі прамок. Прышлося вылізаць сябе языком. Потым хутка абсох і сагрэўся.

Яму хацелася есьці. Але вылезьці з-пад куста ён баяўся: з ракі чуваць былі праразьлівыя галасы чаек.

Так ён галодны і праседзеў цэлы дзень.

Нарэшце, пачало цямнець. Птушкі супакоіліся. Толькі гучныя хвалі разьбіваліся а блізкі бераг.

Пік асьцярожненька вылез з-пад куста.

Азірнуўся, — нікога. Тады ён, нібы цёмная галачка, хутка пакаціўся ў траву.

Тут ён пачаў завіхацца каля лісткоў і травінак, што траплялі яму на вочы. Але высмактаць што-небудзь яму не ўдавалася: малачка ў іх ня было.



Ад злосьці ён пачаў латашыць іх зубамі. Раптам з аднае расьлінкі пырснуў яму у рот цёплы сок. Сок быў салодкі, бы малако яго маткі.

Пік зьеў гэтую расьлінку і пачаў шукаць яшчэ. Ён быў галодны і зусім не зьвяртаў увагі, што рабілася навокал.

Усходзіў круглы месяц. Хуткія цені таямніча праносіліся ў паветры. Гэта ганяліся за ночнымі матылькамі вёрткія кажаны. Ціхае шапаценьне і шолах чуліся з усіх бакоў травы. Нешта варушылася ў траве, шастала ў кустох, хавалася ў купінах.

Пік еў.

Ён перагрызаў расьлінкі каля самых карэнчыкаў. Расьлінкі падалі, і на мышанё ляцеў дождж халоднае расы. Затое ў шчытку расьлінкі Пік знаходзіў смачны каласок. Мышанё прысядала, падняўшы расьлінку пярэднімі лапкамі, бы рукамі, і хутка аб'ядала каласок.

— Плюх-шлёп!—шлёпнула нешта вобземлю недалёка ад мышаняці.

Пік кінуў грызьці, прыслухаўся.

У траве шастала.

— Плюх-шлёп!—зноў пачулася каля купін.

— Плюх шлёп!

Нешта скакала па траве проста на мышанё. Трэба барждждэй назад—у кусты!

— Плюх-шлёп,—скаканула ззаду.

— Плюх-шлёп! Плюх-шлёп!—неслася з усіх бакоў.

— Плюх!—пачулася зусім блізка наперадзе.

Нечыя доўгія выцягнутыя ногі мільганулі над травой, і — шлёп! — перад самым носам Піка шлёпнулася на зямлю лупавокае невялічкае жабянё. Яно палахліва вытарашчылася

на мышанё. Мышанё са зьдзіўленьнем і страхам разглядала яго голую, сьлізкую скуру.

Гэтак яны сядзелі адно супроць аднаго, і ні адно, ні другое ня ведала, што рабіць далей.

А навокал, як і раней, чулася—плюх-шлёп! плюх-шлёп,—нібы цэлая куча перапалоханых жабянят, ратуючыся ад нечага, скакала па траве. І ўсё бліжэй ды бліжэй чулася лёгкае. хуткае шастаньне.



І вось на адзін момант мышанё убачыла: ззаду жабяняці матанулася доўгае выгінастае цела перапяляса-чорнае вужакі. Вужака каўзанула ўніз, — і доўгія заднія ногі жабяняці дрыганулі ў яе разяўленай ляпе.

Што было далей, Пік ня бачыў. З усіх ног ён пусьціўся наўцёкі і сам не заўважыў, як апынуўся на галінцы куста высока над зямлёю.

Тут ён і перэначаваў.

Добра, што жываток быў у яго цесна набіты травою.

А вакол да самага сьвітаньня чуліся шолах і шастаньне.

## IV. Хвост-чаплялка і шэрстка-нявідзімка.

Галодная сьмерць больш не пагражала Піку: ён ужо наўчыўся шукаць яду. Але як яму аднаму было выратавацца ад усіх ворагаў?

Мышы заўсёды жывуць вялікімі сям'ямі, бо так лягчэй бараніцца ад нападу. Хто-небудзь заўважыць ворага, сьвісьне, і ўсе пахаваюцца.

А Пік быў адзін. Яму трэ' было як найхутчэй знайсьці другіх мышэй і далучыцца да іх.

І Пік выправіўся шукаць.

Дзе толькі было магчыма, ён стараўся пралезьці кустамі. А між кустоў было шмат гадзюк, і ён баяўся злазіць на зямлю.

Лазіць ён наўчыўся вельмі спрытна. Асабліва яму дапамагаў хвост. Хвос у яго быў доўгі, выкручасты і чаплясты. З такою чаплялкаю ён мог лазіць па тоненькіх галінках ня горш за малпу.

З галінкі на галінку, з сучка на сучок, з кустка на кусток—так пралазіў тры ночы падрад.

Урэшце выбраўся з кустоў.

Далей было поплава.

З мышамі ў кустох Пік ня стрэўся. Прышлося бегчы далей травою.

Поплава было сухое. Вужакі не трапляліся. Мышанё адважылася і пачало вандраваць

нават у дзень. Ела яно цяпер усё, што яму траплялася: зерняткі, карэнчыкі, ўсялякія расьлінак, жучкоў, казюляк, чарву. А хутка навучылася па-новаму і хавацца ад ворагаў.



Здарылася гэта так.

Пік выграб з зямлі чарву нейкіх жукоў. Ён прымайстраваўся на задніх лапках і пачаў сілкавацца.

Зьзяла сонца. У траве цьвіркалі конікі.

Пік бачыў водаль над поплавам маленькага каршачка, але не баяўся яго. Каршак нярухома вісеў у паветры, бы падвешаны на нітцы. Толькі крылы ў яго ледзь-ледзь дрыжэлі, ды

галаву ён паварочваў з боку ў бок. Ён і ня ведаў, якія зіркія вочы ў каршака. А грудкі ў Піка былі белыя. Калі ён сядзеў, яны былі далёка відаць на шэрай зямлі.

Пік заўважыў небясьпеку толькі тады, калі каршак раптам рвануў з месца і каменем паляцеў на яго.



Уцякаць было позна. З пярэпалаху ў Піка адабрала ногі. Ён прытуліўся да зямлі і замёр.

Каршак даляцеў да яго і раптам зноў павіс у паветры, ледзь трапечучы вострымі крыламі.

Ён ніяк ня мог уцяміць, дзе падзелася мышанё. Толькі што ён бачыў яго беленькія

грудкі і раптам няма. Ён пільна ўглядаўся на тое месца, дзе яно сядзела. Але бачыў толькі шэрыя камячкі зямлі.

А Пік ляжаў тут-жа на яго вачох.

На сьпіне шэрсьць у яго была жоўта-шэрая — якраз пад колер зямлі. І зьверху яго ніяк нельга было заўважыць.

Якраз у гэты час з травы выскачыў зялёны конік. Каршак кінуўся ўніз, схапіў яго і пашыбаваў далей. Шэрстка-нявідзімка выратавала Піка ад сьмерці.

З таго часу ён, калі здалёк заўважаў ворага, дык зараз-жа прытульваўся да зямлі і ляжаў нярухома. І шэрстка-нявідзімка рабіла сваю справу: ашуквала самыя зіркія вочы.

## V. Салавей-разбойнік.

Дзень-у-дзень бег Пік па сенажаці, але нідзе ня мог натрапіць на мышыны сьлед. Урэшце зноў пачаліся кусты. А за імі Пік пачуў, знаёмы плёскат рэчных хваль. Прышлося мышаняці вярнуцца і пакіравацца ў другі бок.

Яно бегла цэлую ноч, а пад раніцу зашылася пад вялікі куст і лягло спаць.

Разбудзіла яго гучная песьня.

Пік зірнуў з-пад карэньня і ўбачыў у сябе

над галавою прыгожую птушку з ружовым валяком, шэраю галоўкаю і чырвона-цынамонавай сьпінкай.

Мышаняці вельмі спадабалася яе вясёлая песьня.

Яму хацелася паслухаць сьпявачку зблізку.



Птушкі-пявуны ніколі не чапалі Піка, і ён іх не баяўся. А гэта сьпявачка як на тое і росту была невялічкага—мо' крыху большая за вераб'я-канапляніка.

Ня ведаў дурненькі Пік, што гэта быў грычун-жулан і што гэта хоць і пявун, але займаецца разбойствам.

Пік не патрапіў яшчэ апамятавацца, як грычун кінуўся на яго і моцна дзеўбануў кручкаватаю дзюбкаю ў сьпіну. Пік клубком паляцеў з галінкі.

Ён упаў на мяккую траву і не забіўся. Не пасьпеў грычун зноў кінуцца на яго, як мышанё ўжо апынулася між карэньня.

Тады хітры салавей - разбойнік усеўся на куст і пачаў чакаць, ці ня выгляне Пік з-пад карэньня.



Ён сьпяваў вельмі прыгожыя песьні, але мышаняці было не да іх. Адтуль, дзе сядзеў цяпер Пік, добра быў відаць той куст, на якім сядзеў грычун. Гальлё гэтага куста было ўсё ў доўгіх вострых калючках. На калючках, бы на ражнох, тырчалі няжывыя, напалову аб'едзеныя птушаняты, яшчаркі, жабяняткі, жукі і конікі. Гэта быў паветраны склад разбойніка. Садзела-б і мышанё на калючцы, каб яно вылезла з-пад карэньня.

Увесь дзень грычун пільнаваў Піка. Толькі пасьля захаду сонца разбойнік забраўся ў гушчар спаць.

Тады мышанё цішком вылезла з-пад куста і ўцякло.

Мабыць, з пярэпалаху яно зьбілася з дарогі. Толькі назаўтра раніцаю яно зноў пачула за кустамі плёскат рэчкі і зноў яму прышлося вярнуцца і бегчы ў другі бок.

## VI. Канец падарожы.

Цяпер Пік бег па сухім балоце. Тут рос адзін сухі мох, бегчы па якім было вельмі кепска, а галоўнае—ня было чым пажывіцца: не трапляліся ні чарвячкі, ні жучкі, ні сакавітая трава. На другую ноч мышанё зусім змаглося. Яно ледзь ускараскалася на нейкі ўзгорачак—і паваліласся.

Вочы яго зьліпаліся. У горле высмагла. Каб крыху прасьвяжыцца, яно лежачы лізала кропелькі халоднае расы.

Пачало сьвітаць.

З узгорку Пік далёка бачыў убраную мохам лагчыну. За ёю зноў пачыналася сенажаць. Сакавітая твава стаяла там высокаю сьцяною. Але ў мышаняці не хапала сілы падняцца і дабегчы да іх.

Узышло сонца.

Ад яго гарачага сьвятла хутка пачалі высыхаць кропелькі расы.

Пік адчуваў, што яму прыходзіць канец. Ён сабраў апошнія сілы, папоўз — але ня ўтрымаўся і скаціўся з узгорку. Ён упаў на сьпіну дагары лапкамі і бачыў перад сабою толькі аброслую мохам купіну.

Проста супраць яго ў купіне відаць была глыбокая чорная дзірка, такая вузкая, што Пік ня здолеў-бы нават усадзіць у яе галаву.

Мышанё заўважыла, што ў гэтай дзірцы штосьці варушыцца.

Хутка ў выхадзе паказаўся імшасты, тоўсты чмель. Ён вылез з дзіркі, пачасаў лапкаю круглы жывоцік, выпрастаў крылы — і ўзьняўся ў паветра.

Абляцеўшы вакол купіны, чмель вярнуўся да свае норкі і сеў каля ўваходу. Тут ён крышку падняўся на лапках і так зазыкаў крыльцамі, што аж ветрам падзьмула на мышанё.

— Зззыыы!—зыкалі крыльцы — Зззыыы...

Гэта быў чмель-трубач. Ён заганяў у глыбокую норку чыстае паветра — праветрываў памяшчэньне—і будзіў тых чмялёў, што спалі ў гнязьдзе.

Неўзабаве адзін за адным павылазілі ўсе чмялі і паляцелі на поплава — зьбіраць мёд. Апошнім паляцеў трубач.

Пік застаўся адзін. Ён здагадаўся, што трэба зрабіць, каб выратавацца.

Сяк-так, паўзучы і адпачываючы, ён дапоўз да чмялінае норкі. Стуль да яго носа дайшоў салодкі пах.

Пік карпануў пыскаю зямлю. Зямля падалася. Ён корпаў яшчэ і яшчэ, покуль ня выкапаў ямку. На дне ямкі паказаліся вялікія мяшэчкі шэрага воску. У адных ляжалі чмяліныя чарвячкі, другія былі паўнюткі пахучага жоўтага мёду.



Мышанё ласа пачала вылізваць салодкі мядок.

Вылізала ўвесь мёд, узялося за чарву і хутка справілася з ёю.

Да яго хутка вярнуліся сілы.

Такое карыснае яды яно яшчэ ні разу ня ела, як засталося адно бяз маткі. Яно больш ды больш разграбала зямлю, зараз ужо без натугі — і знаходзіла ўсё новыя мяшэчкі з чарвою і мёдам.

Раптам нешта моцна кальнула яго ў шчаку.

Пік адскочыў.

З-пад зямлі паўзла на яго вялікая чмяліная матка. Пік хацеў рынуцца на яе, але тут загуло, зазыкала над ім крыльле, чмялі вярнуліся з поплава.

Цэлае войска напусьцілася іх на мышанё, і яму нічога не заставалася, як кінуцца наўцекі.

З усіх ног пусьціўся ад іх Пік. Густая шэрсьць абараняла яго ад пякучых чмяліных джалаў. Але чмялі выбіралі месца, дзе валасы былі карацейшыя і джгалі яго ў вушы, ў ногі, ў патыліцу.

Адкуль і спрыт той узяўся — дабег ён на поплава і схаваўся ў густой траве.

Тут чмялі адсталі ад яго і вярнуліся да свайго разбуранага гнязда.

У той-жа самы дзень Пік перайшоў праз сыры балотны луг,—і зноў апынуўся на беразе рэчкі.

Пік знаходзіўся на востраве.

## VII. Пабудова дому.

Востраў, на які трапіў Пік, быў незаселены, мышэй на ім ня было. Жылі толькі птушкі, вужакі ды жабы, якім лёгка было перабрацца сюды цераз шырокую рэчку.

Пік мусіў жыць адзін, акружаны ворагамі.

Славутны Робінзон, калі ён трапіў на незаселены востраў, пачаў меркаваць, як яму

аднаму жыць. Ён надумаўся спачатку збудаваць сабе дом, каб было дзе хавацца ад нягоды і ворагаў. А потым пачаў зьбіраць запасы на чорны дзень.

Мышанё ня ўмела разважаць. А ўсё-ж ткі яно пашло тым шляхам, як і Робінзон. Перш за ўсё яно ўзялося будаваць дом.

Яго ніхто ня вучыў будаваць: гэта было ў яго прыроджанае.

Яно будавала так, як будавалі ўсе мышы аднаго з ім заводу.

На балотным лузе рос высокі чарот, разам з асакою — удалы лес для мышынае будовы.

Пік выбраў некалькі сумежных чароцін. Узьлез на іх, паадгрызаў шчыткі і канцы папарашчэпліваў зубамі. Ён быў такі маленькі і лёгкі, што чарот лёгка трымаў яго.

Потым ён узяўся за лісьцё. Ён узлазіў на асаку і адгрызаў ліст каля самага сьцябла.

Ліст ападаў, мышанё злазіла ўніз, паднімала яго пярэднімі лапкамі і пачынала ачышчаць яго зубамі.

Пажмаканыя лісточкі мышанё насіла наверх і спрытна ўплятала ў парашчапляныя канцы чароцін. Яно лазіла на такія тонкія травінкі, што яны аж гнуліся пад ім, і зьвязвала іх шчыткамі адну з аднэю. Вышла лёгкая круглая хатка, вельмі падобная да

птушынага гнязьдзечка. Увелькі ўся хатка была з дзіцячы кулак.



З боку мышанё зрабіла ўей ход, у сярэдзіне выслала мохам, лісьцем і тонкімі карэнчыкамі. Для пасьцелі яно нацягала мяккага, цёплага пуху з кветак. І хатка вышла надта выгадная.

Цяпер у Піка быў прытулак, дзе ён мог хавацца ад нягоды і адпачываць. Самае зіркае вока не магло заўважыць травянога гнязьдзечка, адусюль схаванага высокім чаротам і густою асакою. Ніводная вужака не дастала-б яго,— так высока яно вісела над зямлёю.

Лепш ня прыдумаў-бы і сапраўдны Робінзон.

## VIII. Няпрошаны госьць.

Час ішоў.

Мышанё спакойна жыло сабе ў сваёй паветранай хатцы. Яно зрабілася зусім дарослым, але падрасло мала. Больш расьці яму і непатрэбна было, бо яно належала да малое пароды мышэй. Гэта мышыная парода яшчэ меншая за пароду нашых хатніх шэрых мышэй.

Пік часта надоўга цяпер пачаў зьнікаць з дому.

У сьпякоту ён купаўся ў халаднаватай балотнай вадзе недалёка ад лугу.

Аднаго разу ён вышаў з дому пад вечар, знайшоў на лузе два чмяліныя гнязьдзечкі і так наеўся мёду, што там-жа зашыўся ў траву і заснуў.

Дамоў вярнуўся Пік толькі ўранку. Яшчэ зьнізу ён заўважыў нешта нядобрае.

На зямлі і на чароціне была відаць шырокая дарожка сьлізі. А з гнязда тырчэў тоўсты куцаты хвост.

Мышанё не на жарт перапалохалася.

Гладкі тлусты хвост падобны быў да хваста вужакі.

Толькі ў іх хвост цьвёрды і пакрыты лускою, а гэты быў голы, мяккі, увесь у нейкай кляючай сьлізі.

Пік набраўся адвагі і палез па чароціне, каб бліжэй разгледзець няпрошанага госьця. Тымчасам хвост павольна заварушыўся, і пе-



рапалоханае мышанё кумільгом пакацілася на зямлю. Яно стаілася ў траве і стуль убачыла, як гэта страшыдла паволі выпаўзла з яго хаткі.

Спачатку зьнік у выхадзе гнязда тоўсты хвост. Потым адтуль паказаліся два доўгія, мяккія ражкі. Пасьля яшчэ гэткія-ж два рагі—толькі кароткія. І за імі, урэшце, высунулася агідная галава страшыдлы.

Мышанё бачыла, як павольна выпаўзала, нібы лілося, з яго хаткі голае мяккае цела вялізарнага сьлімака. Ад галавы да хваста сьлімак быў даўжынёю з добрых тры вяршкі. Ён пачаў злазіць на зямлю. Яго мяккі жывот шчыльна прыклейваўся да сьцябла і на сьцябле заставалася шырокая палоска густое сьлізі.

Пік не чакаў, пакуль ён спаўзе на зямлю, а ўцёк. Мяккі сьлімак нічога ня мог зрабіць яму, але мышаняці была агідна гэта кволая кляючая жывёліна.

Толькі праз некалькі гадзін Пік вярнуўся.

Сьлімак некуды споўз.

Мышанё залезла ў сваё гняздо. Усё там было выклеена агіднаю сьлізьзю. Пік павыкідаў увесь пух і падаслаў сьвежы. Толькі пасьля гэтага ён адважыўся легчы спаць.

З таго часу, выходзячы з дому, ён заўсёды затыкаў уваход пучком сухое травы.

## IX. Склеп.

Дні пакарацелі, ночы пахаладнелі.

Высьпелі зярняткі збажыны. Вецер ацярушваў іх ня зямлю, і птушкі зьляталіся кучамі да мышаняці на луг зьбіраць іх.

Ня быў галодны і Пік. Ён з кожным днём тлусьцеў. Шэрсьць на ім блішчэла.

Цяпер маленькі чатырохногі Робінзон збудаваў сабе склеп і зьбіраў у яго запасы на чорны дзень. Ён выкапаў у зямлі норку і ў канцы пашырыў яе. Сюды ён і зносіў зерняты, як у склеп.



Потым гэтага яму здалося мала. Ён выкапаў другі склеп і злучыў іх разам падземным ходам.

Задажджыла. Зямля разьмякла, трава пажоўкла, намокла і пахілілася. Травяная хатка Піка зьвісла нізка над зямлёю. У ёй завялася бросьня.

У гнязьдзе жыць стала дрэнна. Хутка трава зусім зьлягла на зямлю, гняздо-ж прыкметным цёмным клубочкам вісела на чароцінцы. Гэта было ўжо небясьпечна.

Пік надумаўся перабрацца жыць пад зямлю. Ён больш не баяўся, што да яго ў норку запаўзе вужака, ці патурбуюць яго няўседлівыя жабяняты: вужакі і жабы даўно дзесь зьніклі.

Мышанё абрала сабе для норкі сухое і прытульнае месьцейка пад купінаю. Уваход у норку Пік зрабіў так, каб ня дзьмуў вецер у яго памяшканьне.

Ад уваходу ішоў доўгі калідор. Ён канчаўся невялічкім круглым пакоікам. Сюды Пік нацягаў сабе сухога моху ды травы і зрабіў сабе логава. У яго новым падземным логаве было цёпла і ўтульна. Ён павыкопваў ад яго пад зямлю ходы ў абодвы свае скляпы, каб можна было бегаць, ня выходзячы на паверхню зямлі.

Калі ўсё было гатова, мышанё шчыльна заткнула ўваход у сваю паветраную летнюю хатку травою і перабралася жыць у падзямельле.

## X. Сьнег і сон.

Ня лёталі больш на сенажаць птушкі кляваць зерняты. Трава шчыльна прылягла да зямлі і халодны вецер вольна пагульваў на востраве.

К гэтаму часу Пік страшэнна патаўсьцеў. Нейкая кволасьць напала на яго. Ад ленасьці яму не хацелася нават зварухнуцца. Ён усё радзей і радзей вылазіў з норкі.

Аднэй раніцы ён заўважыў, што ўваход у яго памяшканьне заваліла. Ён разгроб халодны сыпкі сьнег і вышаў на сенажаць.

Уся зямля была белая. Сьнег на сонцы аж зіхацеў.

Голыя лапкі мышаняці нібы пякло.

Потым пачаліся маразы.

Дрэнна было-б мышаняці, каб яно не назапасіла сабе яды. Бо ці-ж магчыма выкопваць зерняты з-пад глыбокага мёрзлага сьнегу?

Санлівая кволасьць ўсё часьцей ахапляла Піка. Цяпер ён ня выходзіў з логава па два, па тры дні і ўсё спаў.

Ачнуўшыся, накіроўваўся ў склеп, каб падмацавацца там — і зноў засыпаў на некалькі дзён.

На двор ён зусім кінуў выходзіць. Пад

зямлёю яму было добра. Ён ляжаў у мяккім логаве, скруціўшыся ў цёплы пухнаты клубочак. Сэрца яго білася што-раз радзей і цішэй. Дыхаў слаба-слаба. Салодкі моцны сон зусім ахапіў яго.

Маленькія мышы ня сьпяць усю зіму, як байбакі ці хамякі.



Ад доўгага сну яны худзеюць і ім робіцца холадна.

Тады яны прачынаюцца і бяруцца за свае запасы.

Пік спаў спакойна, бо ў яго было два поўныя зернят скляпы.

Ён і не адчуваў, якое нячуванае ліха напаткае яго.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ.

## I. Жудаснае абудшэньне.

У марозны зімовы вечар дзеці сядзелі каля цёплае печкі.

— Дрэнна зараз жывёлінкам, — задуменна сказала сястрычка. — Памятаеш маленькага Піка? Дзе-ж ён цяпер?

— А хто яго ведае! — спакойна адказаў брат. — Даўно ўжо, бадай, трапіў у чые-небудзь лапы.

Дзяўчынка ўсхліпнула.

— Ты чаго? — зьдзіўіўся брат.

— Шкода мышаняці! Яно-ж такое маленькае, жоўценькае...

— Знайшла каго шкадаваць! Пастку пастаўлю — сто штук табе злаўлю!

— Не патрэбна мне сто! — хліпала сястрычка. — Прынясі мне аднаго такога маленькага, жоўценькага...

— Пачакай, дурная, мо' і такі пападзецца.

Дзяўчына выцерла кулачкамі сьлёзы.

— Ну, глядзі: пападзецца, — ты яго ня руш, мне падаруй. Абяцаеш?

— Ну, добра, плаксуха! — згадзіўся брат.

Таго-ж вечару ён паставіў у каморы пастку.

Гэта быў той самы вечар, калі Пік прачнуўся ў сваёй норцы.

Цяпер яго абудзіў ужо ня голад. Праз сон мышанё пачула, як нешта цяжкое прыдушыла яго сьпіну.

І неўзабаве мароз прабраўся да яго.

Калі Пік зусім прачнуўся, дык ад холаду яго аж у дрыжыкі кінула. Зьверху яго прыціснула зямля і сьнег. Столь над ім абвалілася. Калідор быў засыпаны. Чакаць нельга было ні хвілінкі: з марозам жарты дрэнныя. Трэба ў склеп і як найхутчэй наесьціся зернят: пад'еўшы цяплей і мароз ня так хутка прабярэ.

Мышанё выскачыла наверх і па сьнегу пабегла да скляпоў. Але ўвесь сьнег навокал быў раскіданы вузкімі глыбокімі ямкамі — і відаць былі сьляды казіных капытоў. Пік час-часам трапляў у ямкі, ўзьбіраўся наверх і зноў абрываўся ўніз.

А калі ён дабраўся да таго месца, дзе былі яго скляпы, дык убачыў там толькі вялікую яму. Выявілася, што козы ня толькі разбурылі яго падземнае памяшчэньне, але нават зьелі ўсе яго запасы.

Пік павінен быў памерці ад голаду ці замерзнуць.

## II. Сьнегам і лёдам.

Крыху зернятак Піку ўсё-ж ткі пашанцавала знайсьці ў ямцы. Козы ўтапталі іх у сьнег капытамі. Мышанё падмацавалася і сагрэлася.

Зноў пачала ахапляць яго сонная кволасьць. Але ён адчуваў: паддацца сну—г. зн. замерзнуць. Пік схамянуўся і пабег.

Куды? Гэтага ён і сам ня ведаў. Проста бег ды бег, куды вочы глядзяць.

Надышла ноч і высока падняўся на небе месяц. Ледзь прыкметнымі зоркамі зіхацеў сьнег.

Мышанё дабегла да берагу ракі і спынілася. Бераг быў стромкі. Пад страмнінай ляжаў густы цёмны цень. А наперадзе зіхацела шырокая лёдавая рака. Пік боязна панюхаў паветра. Ён баяўся бегчы лёдам. А што, калі хто заўважыць яго сярод ракі? У сьнезе хоць закапацца можна, калі небясьпека, а тут не.

Назад вярнуцца,—там сьмерць ад голаду і холаду. Наперадзе-ж мо' дзе і ёсьць яда і цяпло. І Пік пабег уперад. Ён спусьціўся пад страмніну і пакінуў востраў, на якім доўга жыў так спакойна і шчасьліва.

А драпежныя вочы ўжо заўважылі яго.

Не пасьпеў ён узьбегчы на сярэдзіну ракі, як ззаду пачаў яго даганяць хуткі і нячутны цень. Толькі цень, лёгкі цень на лёдзе ён і

ўбачыў азірнуўшыся. Ён нават ня ведаў, хто яго даганяе. Дарэмна ён прылёг да зямлі жыватом, як гэта рабіў заўсёды ў часе небясьпекі. Яго цёмная шэрасьць выразнаю плямаю відаць была на бліскучым сінявatым лёдзе. І празрыстая імгла месячнае ночы ня здолела схаваць яго ад страшных вачэй ворага.



Цень накрыў мышанё. Крывыя кіпцюры моцна ўеліся ў яго цела. Па галаве нечым моцна выцяла.

І пік страціў прытомнасьць.

## III. З бяды ў бяду.

Апамятаўся Пік у поўнай цемры. Ён ляжаў на нечым цьвёрдым і няроўным. Галава і раны на целе моцна балелі. Але было цёпла.

Пакуль ён залізваў свае раны, вочы яго патроху пачалі прызвычайвацца да цемры.

Ён убачыў, што апынуўся ў прасторным памяшчэньні з круглымі сьценамі, выходзіўшымі кудысь угору.

Столі ня відаць было, хоць дзесь над галавою мышаняці сьвіцілася вялікая дзірка. Праз гэтую дзірку ў памяшчэньне прарывалася яшчэ зусім слабое ранішняе сьвятло.

Пік зірнуў на чым ён ляжыць, — і раптам ускочыў.

Ляжаў ён на няжывых мышах. Мышэй было шмат, і ўсе яны адубелыя. Відаць, ляжалі тут даўно.



Страх надаў мышаняці сілы. Пік ускараскаўся па шурпатай стромкай сьцяне і зірнуў на двор.

Навокал было толькі засыпанае сьнегам гальлё.

Унізе пад ім відаць былі верхавінкі кустоў. Сам Пік быў на дрэве: выглядаў з дупля.

Хто прынёс яго сюды і кінуў на дно дупля,—мышанё так і не даведалася. Ды яно і ня цікавілася гэтаю загадкаю, а проста хапілася барджджэй уцякаць адтуль.

Справа-ж была так.

На лёдзе ракі яго дагнала вушастая лясная сава. Яна дзеўбанула яго ў галаву, падхапіла ў кіпцюры і панесла ў лес.

На шчасьце, сава была не галодная; яна толькі была злавіла зайца і зьела, колькі здолела. Валяк яе быў так туга набіты, што

ў ім нават не хапала месца для маленькага мышаняці.

Таму яна і пакінула сабе Піка на запас.

Сава занесла яго ў лес і кінула ў дуплё,



дзе ў яе быў склеп. Яшчэ з восені яна сюды нацягала штук з дзесяць забітых мышэй Зімою даставаць есьці цяжэй, і нават такім спрытным ночным драпежнікам, як сава, даводзіцца часамі галадаць.

Яна, бязумоўна, ня ведала, што мышанё толькі аглушана, а то зараз-бы праламала яму чэрап сваёю вострай дзюбаю. Звычайна-ж

ёй удавалася забіваць насьмерць мышэй ад першага разу.

Піку занадта пашанцавала ў гэты раз.

* * *

Пік шчасьліва спусьціўся з дрэва і шуганўў у кусты. Толькі тут ён заўважыў, што з ім робіцца штось нядобрае: дыханьне са сьвістам вылятала ў яго з горла.

Раны ад савіных кіпцюроў ня былі сьмяротнымі, але штось папсавалі ў яго грудзях, і ён пасьля шпаркага бегу пачаў сьвістаць.

Калі ён адпачыў і пачаў сапці роўна, сьвіст спыніўся.

Мышанё наелася горкае кары з куста і зноў пабегла — далей ад жудаснага месца.

Мышанё бегла, а ззаду яго заставалася на сьнегу тонкая, у два сьлядкі, дарожка.

І калі Пік дабег да палянкі, дзе за парканам стаяў вялікі дом з камінамі, — на сьлед яго ўжо натрапіў ліс.

Нюх у ліса быў вельмі добры. Ён адразу скеміў, што мышанё прабегла тут нядаўна, і пусьціўся яго даганяць.

Яго агніста-рыжы хвост аж замільгаў між кустоў, і ўжо напэўна ён бег шмат хутчэй за мышанё.

## IV. Пік-музыка

Пік ня ведаў, што за ім сьледам гоніцца ліс. Таму, калі з хаты выскачылі два вялізныя сабакі і брэшучы кінуліся на яго, ён думаў, што загінуў.

Але сабакі, зразумела, яго нават і не заўважылі. Яны ўбачылі ліса, выскачыўшага за Пікам з кустоў, і кінуліся яго даганяць.

Ліс у момант завярнуўся. Яго агністы хвост мільгануў апошні раз — і зьнік у лесе. Сабакі подскакам праляцелі над галавой мышаняці— і таксама зьніклі ў кустох.

Пік бяз жадных прыгод дабраўся да дому і шмыгануў пад падлогу.

Першае, што Пік заўважыў пад падлогаю— гэта быў моцны мышыны пах.

Кожныя жывёлы маюць свой асобны пах, і мышы пазнаюць сябе па паху ня горш, як мы пазнаем людзей па іх выгляду.

Таму Пік адразу пазнаў, што тут жылі мышы другой пароды. Ды ўсё-ж такі гэта былі мышы, а Пік быў мышанё. Ён узрадаваўся ім таксама, як Робінзон узрадаваўся людзям, калі вярнуўся да іх з свайго бязьлюднага вострава.

Зараз-жа Пік і пабег шукаць мышэй.

Але знайсьці іх тут было ня вельмі лёгка. Мышыныя сьляды і пах ад іх быў усюды, але саміх мышэй ня відаць было.

У падлозе былі павыгрызаны дзіркі. Пік падумаў, што мышы, мабыць, жывуць там, наверсе, узабраўся па сьцяне, вылез праз дзірку і апынуўся ў каморцы.

На падлозе стаялі вялізныя, панасыпаныя ўсім-усякім мяхі. Адзін з іх быў прагрызены зьнізу, і крупы павысыпаліся з яго на падлогу.

А на сьценах каморкі былі паліцы. З іх несьліся розныя, нязвычайна смачныя пахі. Пахнула і копчаным, і сушаным, і смажаным, і яшчэ нечым вельмі салодкім.

Галоднае мышанё прагавіта прыпала да яды.

Пасьля горкае кары крупы здаліся яму такімі смачнымі, што яно наелася па горла.

Так наелася, што яму нават дыхаць стала цяжка.

Цяпер зноў у яго горле засьвістала і засьпявала.

Але тымчасам з дзіркі ў падлозе паказалася вусастая і вострая морда. Злосныя вочы бліснулі ў цемры, і ў каморку выскачыла вялікая шэрая мыш, а за ёю яшчэ такіх самых чатыры.

Выгляд у іх быў такі сярдзіты, што Пік не адважыўся кінуцца ім насустрач. Ён палахліва тупаў на адным месцы і ад хваляваньня сьвістаў усё мацней ды мацней.

Шэрым мышам не спадабаўся гэты сьвіст. Адкуль узялося гэтае чужое мышанё-музыка?

Шэрыя мышы каморку лічылі сваёю. Яны часамі прымалі пад падлогу лясных мышэй, якія забягалі з лесу, але такіх сьвістуноў яшчэ ніколі ня бачылі.

Адна мыш кінулася на Піка і моцна ўкусіла яго за плячо. За ёю наляцелі і другія.

Пік ледзь-ледзь пасьпеў уцячы ад іх у дзірачку пад якойсьці скрыняй.

Дзірачка была такая вузкая, што шэрыя мышы ня здолелі за ім пралезьці. Тут ён быў у небясьпецы. Але яму было вельмі крыўдна, што яго шэрыя сваякі не захацелі прыняць яго ў сваю сям'ю.

## V. Пастка.

Кожную раніцу сястра пыталася ў брата:

— Ну што, злавіў мышанё?

Брат паказваў ёй мышэй, якія траплялі ў пастку. Але гэта былі ўсё шэрыя мышы, і дзяўчынцы яны не падабаліся. Яна нават трохі баялася іх. Ёй абавязкова патрэбна было маленькае жоўтае мышанё.

— Пусьці іх,—казала яна сумна.—Гэтыя не такія ўдалыя...

Брат выносіў злоўленых мышэй і—цішком ад дзяўчынкі—тапіў іх у вядры.

Але апошнімі днямі мышы чамусь зусім перасталі яму пападацца.

Дзіўней за ўсё было тое, што прынаду нехта зьядаў штоноч. Зьвечару хлопчык начэпіць пахучы кавалачак падсмажанага сальца на кручок, нацягне туга дзьверцы пасткі. А ўранку прыдзе — на кручку нічога няма, і дзьверцы зачынены.

Ён ужо аглядаў некалькі разоў і пастку: ці няма дзе дзіркі? Але вялікіх дзірак,—такіх, праз якія магла-б пралезьці мыш,—у пастцы ня было.

Так прайшоў цэлы тыдзень, а хлопчык аніяк ня мог уцяміць, хто крадзе ў яго прынаду.

І вось раніцою на восьмы дзень хлопчык прыбег з каморкі і яшчэ на парозе закрычаў.

— Злавіў! Глядзі—жоўценькі!

— Жоўценькі, жоўценькі! — узрадвалася сястра.

— Зірні, дык гэта-ж наш Пік: у яго і вуха разрэзана. Памятаеш, ты яго ножыкам тады?.. Бяжы хутчэй па малако, пакуль я адзенуся.

Яна ляжала яшчэ ў ложку.

Брат пабег у другі пакой, а яна паставіла пастку на падлогу, выскачыла з-пад коўдры і хутка нацягнула на сябе сукенку.

Але калі яна зноў зірнула на пастку, мышаняці там ужо ня было.

Пік даўно навучыўся ўцякаць з пасткі.

Адзін дроцік быў крыху сагнуты. Шэрыя мышы не маглі праціснуцца ў гэту дзірачку, а ён праціскаўся.

Ён уваходзіў у пастку праз адчыненыя дзьверцы і зараз-жа тузаў за прынаду. Дзьверцы зачыняліся, але страх Піка хутка праходзіў, і ён спакойна еў прынаду. А потым ужо вылазіў праз лазок.



У апошнюю ноч хлопчык выпадкова паставіў пастку каля самае сьцяны і якраз тым бокам, дзе быў лазок. І Пік папаўся.

А калі дзяўчынка паставіла пастку сярод пакою, ён выскачыў і схаваўся за вялікаю скрыняю.

## VI. Музыка.

Брат застаў сястру ў сьлязах.

— Ён уцёк!—казала яна праз сьлезы.—Ён ня хоча ў мяне жыць!

Брат паставіў на стол сподачак з малаком і пачаў яе суцішаць.

— Раскісла! Ды я яго зараз злаўлю ў бот!

— Як — у бот? зьдзівілася дзяўчынка.

— Зусім проста! Здыму бот, палажу яго халяваю да сьцяны, а ты спудзіш мышанё. Яно пабяжыць паўз сьцены — яны заўсёды ля самай сьцяны бегаюць, — убачыць дзірку ў халяве, падумае, што гэта норка, — і шмыгане туды! Вось так у бот я яго і злаўлю.

Сястра кінула плакаць.

— А ведаеш што? — сказала яна.

— Ня будзем яго лявіць. Няхай жыве ў нашым пакоі. Ката ў нас няма; ніхто яго не зачэпіць. А малако я буду ставіць яму вось сюды на падлогу.

— Ты заўсёды выдумляеш! — нездаволена сказаў брат.—Не мая справа. Гэтае мышанё я падараваў табе, рабі з ім, што хочаш.

Дзяўчынка паставіла на падлогу сподачак, накрышыла ў яго хлеба. Сама села збоку і пачала чакаць, калі вылезе мышанё

Але яно так і ня вылезла да самае ночы. Дзеці думалі нават, што яно ўцякло з пакою.

Аднак раніцою выявілася што малако выпіта, а хяеб зьедзены.

„Як-жа мне асвоіць яго?" думала дзяўчынка.

Піку жылося цяпер вельмі добра. Ен еў цяпер заўсёды колькі хацеў, шэрых мышэй у пакоі ня было, і яго ніхто не чапаў.

Ён нацягаў за куфар анучак і паперы ды змайстраваў сабе там гняздо. Людзей ён пабойваўся і вылазіў з-пад куфра толькі ўночы, калі дзеці спалі. Але аднаго разу ўдзень ён пачуў прыгожую музыку.

Нехта іграў на дудачцы тоненькім і жаласным голасам

І зноў, як і той раз, калі Пік пачуў саляўя-разбойніка, ён ня стрымаўся, каб не паслухаць музыку бліжэй. Ён вылез з-пад куфра і сеў на падлогу сярод пакою.

На дудачцы граў хлопчык. Дзяўчынка сядзела побач з ім і слухала. Яна першая заўважыла мышанё.

Вочы яе раптам пабольшалі, пацямнелі. Яна ціхутка штурханула брата локцем і прашаптала яму.

— Не варушыся!.. Бачыш — Пік вылез, Грай, грай, ён хоча паслухаць!

Брат граў далей. Дзеці сядзелі ціха, баючыся зварухнуцца. Мышанё слухала сумную песеньку дудачкі — і неяк зусім забылася пра небясьпеку. Яно нават падышло да сподачка і пачало сёрбаць малако, нібы ў пакоі нікога і ня было І хутка так насёрбалася, што і само пачало сьвістаць.

Вочы дзяўчынкі зрабіліся яшчэ большымі і пацямнелі.

— Чуеш? — ціханька сказала яна брату. — Яно сьпявае!

Пік схамянуўся толькі тады, калі хлопчык кінуў грацць, і зараз-жа ўцёк пад куфар.

Але цяпер дзеці ведалі, як асвоіць палахлівае мышанё. Яны ціхутка гралі ў дудачку. Пік вылазіў на сярэдзіну пакою, садзіўся і слухаў. А калі ён сам пачынаў сьвістаць, дык у іх выходзілі сапраўдныя концэрты.

## VI. Добры канец.

Хутка мышанё так прызвычаілася да дзяцей, што зусім перастала іх баяцца. Яно пачало вылазіць бяз музыкі. Дзяўчынка прыўчыла яго нават браць з яе рук хлеб. Яна садзілася на падлогу і мышанё ўзьбіралася ёй на калені. Дзеці зрабілі яму маленькую дрыўляную хатку з намаляванымі вокнамі і сапраўднымі дзьвярыма.

У гэтай хатцы Пік і жыў у іх.

А калі ён выходзіў пагуляць, дык па старому звычаю затыкаў дзьверы ўсім, што траплялася яму на вочы: анучкаю, істужкаю, паперай, воўнаю ды інш.

Нават хлопчык, які ня так любіў мышэй, вельмі прызвычаіўся да Піка. Найбольш за ўсё яму падабалася, што мышанё есьць і мыецца пярэднімі лапкамі, бы рукамі.

А сястрычка вельмі любіла слухаць яго цененькі-цененькі сьвіст.

— Ён прыгожа сьпявае,—казала яна брату.

— Ён вельмі любіць музыку.



Яна і ня думала, што мышанё сьпявала зусім не для свае забавы. Яна-ж ня ведала, якія прыгоды пераҗыў маленькі Пік і якую цяжкую падарожу ён перанёс раней, чым трапіў да яе.

І добра што яно так добра скончылася.

# ЗЬМЕСТ

Частка першая



Частка другая

Выдавецтва
Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын
імя Алёізіі Пашкевічанкі „Цёткі".



## „БІБЛІОТЕКА ШКОЛЬНІКА".

У хуткім часе выходзяць з друку кніжкі для дзяцей з малюнкамі ў тэксьце.

## Лясныя хаткі

*Біанкі В.*

## Пра малпачку

*Жыткоў Б.*

## М у р з і к

*Біанкі В.*

